

# БЕЛАРУСКІ ДАЙДЖЭСТ

BELARUSIAN DIGEST

ГАЗЭТА БЕЛАРУСКАГА ЗАМЕЖЖА ў АМЭРЫЦЫ

BULK RATE
US POSTAGE
PAID
ADA, MI
Permit No 47

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI 49546-3616 USA.

№ 9(45) Верасень 1997 September Год выд. 5


Ніл ГІЛЕВІЧ

## На святло праўды, на подых свабоды

"Народная Воля"

Усім, хто ахвярye свае сілы на справу нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі, сёння вельмі і вельмі нялёгка, а заўтра, напэўна, будзе і яшчэ цяжэй. Чаму — зразумела: таму што імпер-шавіністы і запраданцы авалодалі палітычнай сітуацыяй у краіне і разгарнулі шалёна-апантаную дзейнасць, скіраваную на ліквідацыю суверэннай, незалежнай дзяржавы Беларусь. Галоўная прычына, чаму так здарылася, — адсутнасць згуртаванасці ўсіх дэмакратычна настроеных грамадзян пад



сцягам беларускай нацыянальнай ідэі. І гістарычны вопыт, і наша сучаснасць пераканаўча сведчаць: толькі гэта ідэя можа аб'яднаць народ, можа мабілізаваць фізічныя, маральныя і духоўныя людскія рэсурсы, каб вывесці краіну з палітычнага крызісу, а затым і з эканамічна-сацыяльнага заняпаду, каб дасягнуць жаданага дабрабыту. Усе былыя рэспублікі СССР, як і стаўшыя незалежнымі Славенія, Харватыя, Македонія, Славакія, менавіта гэту ідэю паклалі ў аснову сваёй дзяржаўнай жыццядзейнасці, сваёй унутранай і вонкавай палітыкі. І можна не сумнявацца, што яны распарадзяцца сваім лёсам найлепшым чынам. Славенія, напрыклад, ужо дасягнула незвычайных поспехаў у развіцці эканомікі і сацыяльнай сферы.

А мы, у адрозненне ад усіх гэтых народаў, добраахвотна адмаўляемся ад вернага шляху да шчасця і дабрабыту, адмаўляемся ад беларускай ідэі як асновы асноў эканамічнага і духоўнага развіцця нацыі. Я сказаў "мы", маючы на ўвазе ўсіх беларусаў агулам, паколькі свет глядзіць на Беларусь як на адно агульнае цэлае, як на адзіны нацыянальны арганізм. Свет не вельмі ўнікае ў сутнасць і прычыны нашай нацыянальнай трагедыі, а тым больш не надта бярэ да сэрца наш боль, ведаючы, што за гісторыю чалавецтва падобных трагедый было ўжо нямала. Пра гэта трэба помніць, каб не ўскладаць спадзяванняў на некага, а самім ратаваць сябе ад заўчаснага сыходу ў небыццё.

Ужо колькі гадоў я прыглядаюся да ўсяго таго нядобрага і нават ганебнага, што адбываецца ў Беларусі і з Беларуссю. Ідзе нечуванае прадажніцтва нацыянальных інтарэсаў народа, а разам з гэтым і ў сувязі з гэтым ідзе жахлівая маральна-духоўная дэградацыя грамадства, падзенне нораваў, разбэшчанне чалавека як асобы. З мінулага, з эпохі сталінізму і наступных эпох, бярэцца, насаджаецца і культывуецца ў нашым жыцці і побыце ўсё самае горшае, самае амаральнае, бессаромнае, цынічнае. І раней, пры генсеках, усё ў дзяржаве трымалася на хлусні і абмане — цяпер хлусні і абману стала непараўнана больш. І раней у жыцці грамадства было дзве праўды: адна — для начальства, другая — для гэтак званых працоўных мас, хоць партыйная прапаганда і даводзіла масам, што праўда ў нас для ўсіх адна. Цяпер яшчэ ў большай меры ідзе прапагандысцкае ачмурэнне людзей хлуснёю, каб яны паверылі, што ў іх і ў начальства праўда адна і клопат адзін і той жа і адны і тыя ж пакуты. І раней беспакарана, пад заслонай дзяржаўнай улады працвітала ўсякае хапужніцтва, зладзюганства, казнакрадства — цяпер яно працвітае яшчэ больш пышна, у памерах і маштабах дзесяцікратных, стакратных, а можа, і тысячакратных.

Паратунак ад усяго гэтага — толькі на шляхах дэмакратызацыі грамадства, развіцця галоснасці, усталявання законаў і законнасці, роўна абавязковай для ўсіх, на шляхах развіцця нацыянальна-гістарычнай самасвядомасці, развіцця вялікай гуманістычнай культуры, сапраўднай духоўнай і мастацкай творчасці.

Многія з сённяшніх дзяржаўных дзеячаў Беларусі робяць выгляд, што служаць нацыянальным інтарэсам беларускага народа, спадзеючыся, што наіўны, даверлівы "электарат" нічога не бачыць і не разумее. Дарэмна спадзяюцца! Нават і "электарат" пачынае ўсё больш бачыць і ўсё больш разумець. У тым ліку разумець, што ёсць годнасць і гонар нацыі. Зноў і зноў думаю пра гэтых самых дзяржаўных дзеячаў. Нішто, апрача баязлівасці або шкурніцтва, не перашкаджае ім апомніцца і адмовіцца ад услугавання "ворагам беларушчыны", нішто не адымае ў іх права сказаць: я — сын або я — дачка гэтай зямлі, і я не магу падтрымліваць намаганні антыбеларускіх сіл ліквідаваць свабоду і незалежнасць маёй Бацькаўшчыны. Але, каб так сказаць, патрэбна мужнасць, патрэбна сумленне, патрэбна нацыянальная і проста чалавечая годнасць, патрэбен пэўны культурны ўзровень, патрэбна веданне гісторыі як свайго народа, так і народаў свету, асабліва суседніх. А перш-наперш — патрэбна шчырая, гарачая любоў да роднай зямлі, да роднай мовы і да ўсяго таго, што з'яўляецца душой Беларусі.

Шаноўныя суайчыннікі, браты і сёстры, паплечнікі ў змаганні за Беларусь, за яе прысутнасць у свеце! За чатыры гады, што прайшлі пасля І з'езду, многае з заваяванага намі, беларусамі, на вялікі жаль, страчана, многае адкруцілася і працягвае адкручвацца назад. Горка, трывожна, балюча бачыць і ўсведамляць гэта. Але не будзем траціць надзей і веры. Тым больш што ў падмогу старэйшым з нас ідзе выдатная, слаўная моладзь, яна не дазволіць атруціць сябе пагібельнай хлуснёй, яна не пабаіцца цяжкасцяў і пакут — у імя сваёй будучыні. На мяжы 80—90-х такой беларускай моладзі не было. Дакладней — былі адзінкі і дзесяткі, а цяпер — тысячы і дзесяткі тысяч! А спатрэбілася дзеля гэтага, каб яна так хораша ўзрасла, зусім мала: глыток свабоды ды трохі праўды. Праўды пра наш гістарычны лёс, пра наша далёкае і недалёкае мінулае. Свабода і праўда за мінімальна кароткі час — за тры-чатыры гады — зрабілі неверагоднае: паклікалі да грамадскага жыцця пакаленне зусім новых маладых людзей, якія складуць касцяк заўтрашняй беларускай інтэлігенцыі. І гэта будзе інтэлігенцыя без ганебных сіндромаў, інтэлігенцыя таго кшталту, якім пазначаны нашы папярэднікі і настаўнікі пачатку стагоддзя, эпохі стварэння БНР, эпохі, калі сцяг нацыянальнага адраджэння ўздымалі Купала, Колас, Цётка, Багдановіч, Гарэцкі, Гарун, Ластоўскі, Смоліч, Некрашэвіч, браты Луцкевічы і многія іншыя вялікія, слаўныя сыны і дочкі нацыі.

Сёння ў афіцыйным друку нямала пішацца аб тым, нібыта ў 90—94-м гадах у нас праводзілася гвалтоўная беларусізацыя. Хачу рашуча запярэчыць, што гэта няпраўда. Не было ніякай патрэбы ў прымусовасці і гвалце. Як толькі людзі адчулі свабоду і атрымалі Закон аб мове — яны самі адразу ж павярнуліся душой і сэрцам да роднага слова, да сваёй нацыянальнай культуры, да вытокаў і каранёў свайго гістарычнага быцця. Далі б і цяпер магчымасць на ўвесь голас гаварыць праўду — у друку, па радыё, на тэлебачанні — і мы б убачылі, як хутка людзі пачалі б вызваляцца ад дурману хлусні і дэмагогіі. Такая ўжо прырода чалавека — цягнуцца на святло праўды, на подых свабоды.

Хоць магчымасці гаварыць праўду вельмі звузіліся — усё ж яе трэба гаварыць. Абавязкова! І не палавіну ці чвэрць праўды, а ўсю праўду. Трэба паўсюдна і нястомна гаварыць — як свайму народу, так і ўсім добрым людзям планеты — пра рэальную палітычную сітуацыю на Беларусі, пра курс узурпатараў улады на ліквідацыю беларускай дзяржавы, пра цынічную спекуляцыю на братэрскіх пачуццях беларусаў і неймаверную дэмагогію, з якімі гэты курс праводзіцца, гаварыць пра сапраўднае становішча беларускай мовы, беларускай культуры і беларускай школы ўсіх рангаў у Беларусі, пра задушэнне дэмакратычных свабод і пра многае іншае, ад чаго нам сёння сорамна перад цэлым светам. Ганебнаму курсу на дзяржаўнае і нацыянальнае самазабойства мы абавязаны процістаявіць курс на дзяржаўнае і нацыянальнае самасцвярджэнне. Іншай дарогі ў будучыню ў нас няма. Жыве Беларусь!

**P.S.** *Такімі думкамі было прасякнута выступленне Н.Гілевіча на Другім з'ездзе беларусаў свету.*



## Вітаем Спадара Ўладзімера БРЫЛЕЎСКАГА

з 80-мі ўгодкамі жыцьця.

Сп. Уладзімер Брылеўскі ведамы публіцыст са значным даробкам у беларускіх і польскіх публікацыях, выдатны грамадзка-палітычны дзеяч і руплівец, гарачы патрыёт Беларусі і стойкі незалежнік.

Дарагі Ўладзімер! Вітаем Вас на старонках нашае незалежнае газэты.

## Бел-чырвона-белы сцяг высокай напругі

**Няўлоўны Мірон нічога не баіцца: у ноч з 25 па 26 ліпеня ён вывесіў бел-чырвона-белы сцяг на 40-метровай мачце электраліній напругай у 110 тысяч вольт.**

СВАБОДА ўжо не раз пісала пра Мірона, які неаднойчы прымацоўваў нацыянальныя сцягі на самых высокіх кропках Лёзна і Віцебска. Разам са сцягам Мірон заўсёды пакідаў запіску, у якой паведамляў, дзеля чаго ён праводзіць свае акцыі. На гэты раз сцяг правісеў на мачце ЛЭП да 15 гадзін 26 ліпеня і быў зняты спецыяльна выкліканай з Віцебска брыгадай электрыкаў-высотнікаў. У прымацаванай запісцы паведамлялася, што Мірон вывесіў сцяг *«ад імя ўсіх сапраўдных мужыкоў Віцебшчыны»*.

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

## Барысаў на адзін дзень стаў бел-чырвона-белым

**У ноч з 28 на 29 ліпеня ў Барысаве на відных месцах былі вывешаныя бел-чырвона-белыя сцягі, а муры многіх будынкаў распісаныя лозунгамі «Жыве Беларусь!» і «Stop, Лука».**

Нацыянальная сцягі лунаді з раніцы над бібліятэкай, што знаходзіцца побач з галоўнай плошчай, і над некалькімі жылымі дамамі ў розных канцах горада. Бел-чырвона-белы сцяг тырчаў нават з дула танка часоў Другой сусветнай вайны, які выконвае функцыю помніка воінам-вызваліцелям. Каб знайсці і знішчыць усю «незарэгістраваную сімволіку», мясцовай уладзе спатрэбілася больш сутак.

Аўтарства акцыі належыць маладзёвай фракцыі мясцовай арганізацыі БНФ. Маладыя фронтаўцы, якія называюць сябе «Барысавічамі», заяўляюць, што гэткім чынам выказалі пратэст супраць арыштаў удзельнікаў святкавання Дня незалежнасці 27 ліпеня ў Мінску.

**Алесь ПАЎЛОВІЧ**

**BELARUSIAN DIGEST**
Беларускі Дайджэст

1086 Forest Hills, SE.
Grand Rapids, MI. 49546-3616
U.S.A.

Phone: (616) 942-0108; Fax: (616) 942-6364

Publisher & Editor — Nikolas Prusky
Выдавец і Рэдактар — Мікола Прускі

Belarusian Digest, (ISSN 1079-7696) is published monthly by Belarusian Digest, 1086 Forest Hills, SE. Grand Rapids, MI 49546-3616, U.S.A.
Артыкулы і допісы могуць выяўляць пагляды, з якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

## *АБНАЎЛЕНЬНЕ РАДЫ Б.Н.Р.*

**(Спэцыяльна для «Беларускага Дайджэсту»)**

**Рада Беларускай Народнай Рэспублікі дзейнічае ад аб'яўленьня незалежнасьці Беларусі 25 Сакавіка 1918 году безупынна як легітымнае прадстаўніцтва БНР на чужыне, як сімвал незалежнасьці Беларусі з Яе гістарычнымі атрыбутамі: бел-чырвона-белым сьцягам і Пагоняй.**

**Фармальнае аб'яўленьне незалежнасьці Беларусі ў 1991 г. выклікала пытаньне перадачы сімвалаў і паўнамоцтваў БНР уладам Рэспублікі Беларусь. Адказ на гэтае пытаньне далі падзеі наступных гадоў. Чарговыя дзеяньні прэзыдэнта Лукашэнкі пагражаючыя, у пераканаьні Рады БНР, сувэрэннасьці краіны схілілі Прэзыдыум Рады да паглыбленьня дзейнасьці на выпадак акупацыі Беларусі. У сувязі з гэтым узьнікла думка паклiканьня эўрапэйскага аддзелу Рады БНР. З ініцыятывы Заст. Старшыні Рады Д-ра Барыса Рагулі 5-га і 6-га ліпеня 1997 г. адбылося ў Вільні спатканьне прадстаўнікоў беларускага асяродзьдзя з Амэрыкі, Бэльгіі, Канады, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Эстоніі. Асноўным пунктам праграмы спатканьня быў, зразумела, рэфэрат Барыса Рагулі, які мае легчы ў аснову маніфэсту Рады БНР, скліканьне якой прадбачыцца 30-га і 31-га жніўня 1997 г. у ЗША. Маніфэст — выясьніў Б. Рагуля — можа ў будучым паслужыць асновай сыстэмы існаваньня незалежнай Беларусі і ня мае на мэце падмены існуючага сяньня ўраду ў Беларусі. Абгрунтаваньнем маніфэсту зьяўляецца, паводле яго аўтара, пагроза ўтраты дзяржаўнасьці Беларусі ў выніку зламаньня прысягі прэзыдэнтам Лукашэнкам дадзенай ім на Канстытуцыю 1994 г., разгону легітымнага Вярхоўнага Савету і стварэньне сабе паслухмянага, глумленьня вольнасьці слова, запачаткаваньня паліцыйнай сыстэмы, з мэтай інкарпарацыі Беларусі ў склад Расеі.**

Дакладчык выказаўся за пашырэньнем эканамічных зносін з рознымі краінамі (ня толькі Расеяй) на партнэрскіх прынцыпах. Землю залічыў асноўным багацьцем дзяржавы, якая павінна быць зьвернута сялянам шляхам надзелу. Зьвярнуў увагу на неабходнасьць прыватызацыі прамысловасьці, дзеля забяспечаньня рэнтабельнасьці, пры чым падкрэсьліў мэтазгоднасьць 3-гадовага звальненьня ад падатковых налогаў так сялян, як і прамысловых прадпрымальнікаў ад моманту пачатку іх гаспадараньня.

Падкрэсьліў значэньне, у шырокім паняцьці, вольнасьці слова і палітычных поглядаў ды адкрытасьці і незалежнасьці судовых працэсаў.

Маючы на ўвазе скрыжаваньне на Беларусі розных культур і ўплываў усходу, захаду, поўдня і поўначы, ды ўдзел грамадзян розных нацыянальнасьцяў у жыцьці краіны (параўнаньне са Швайцарыяй) прамовіўся за рэлігійнай і моўнай талерантнасьцю ўлічваючы дзяржаўнасьць беларускай мовы з магчымасьцю справаводзтва і на іншых мовах, у залежнасьці іншамоўнага насельніцтва ў даным рэгіёне краіны.

Захоўваючы прынцып беларускамоўнага навучаньня як асноўнога — прадбачваецца ў дакладзе вольнасьць адукацыі ў іншых мовах, у залежнасьці ад характару і пажаданьня жыхароў.

З увагі на гэапалітычнае палажэньне краіны, палічыў мэтазгодным захаваць нэўтралітэт Беларусі.

Для падтрыманьня дэмакратыі і зьберажэньня краіны ад ізаляцыі, прадбачыў неабходным для Рады БНР дамагацца прадстаўніцтва пры ўрадах вольнага сьвету.

Даклад свой закончыў Барыс Рагуля пажаданьнем захаваньня незалежнасьці Беларусі без крыві, аддаючы прыярытэт сэнсоўным пагадненьням.

Асноўны даклад Б. Рагулі, як і яго наступныя выступленьні, у якіх паінфармаваў ад дасюлешняй дзейнасьці Рады БНР на чужыне і прызваў дэмакратычныя сілы ў краіне да аб'яднаньня вакол ідэі БНР, каб ха-

*(Працяг на стар. 3)*

*Генадзь БУРАЎКІН*

# Змянілася ўлада, змянілася дзяржаўная палітыка. Ды так крута, так нечакана, так нахабна, што мову адымае...

“Народная Воля”

*(Такімі думкамі вядомы паэт і грамадскі дзеяч Г.Бураўкін падзяліўся на Другім з'ездзе беларусаў свету)*

Так склаліся ў мяне абставіны жыцця, што я не быў на Першым з'ездзе беларусаў свету. Але сродкі масавай інфармацыі, жывыя ўражанні яго ўдзельнікаў данеслі і да мяне шчаслівую атмасферу радасці і яднання, якая панавала тады і ў зале, і ў кулуарах. Я вельмі чакаў сённяшняй, другой сустрэчы. Я спадзяваўся, што яна будзе і яшчэ больш урачыстай, і яшчэ больш дзелавой, і яшчэ больш плённай. Але атмасфера ў нас (ва ўсякім разе, у многім) невясёлая.

Што ж адбылося за гады паміж першай і другой сустрэчамі? Змяніўся характар беларуса? Высахлі нашы бары і рэкі, перасталі расці жыта і лён, замоўклі над нівамі і сенажацямі жаўранкі і кнігаўкі?.. Не, змянілася ўлада, змянілася дзяржаўная палітыка. Ды так крута, так нечакана, так нахабна, што мову адымае.

Вось пра мову я і хачу сёння гаварыць, наколькі дазволіць рэгламент і паколькі я прадстаўляю тут Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, грамадскую, некамерцыйную, непалітычную арганізацыю, створаную для спрыяння роднаму, матчынаму слову, а цяпер — адпаведна з нашымі рэаліямі — і для нялёгкай абароны яго. Паколькі не сумняваюся ў вашай дасведчанасці ў нацыянальнай беларускай гісторыі, не буду зазіраць далёка ў мінулае, не буду клікаць у сведкі святыя цені нашых геніяльных землякоў і пастараюся нават не захапляцца залішне каментарыямі. Прывяду для вашага роздуму факты, найбольш звязаныя са школьніцтвам, з навучаннем і выхаваннем нашых мілых дзетак.

Да пачатку 1994/1995 навучальнага года ў сталіцы нашай краіны — Мінску — было 130 школ са статусам беларускіх (па некаторых іншых дакументах — 110). Не будзем дужа строга разглядаць поўную ці не адпаведнасць іх канцэпцыі нацыянальнай адукацыі, адзначым як факт — 110. І заўважым, што ў маі 1995 года адбыўся вядомы рэферэндум, дзе, між іншым, стаяла пытанне аб наданні рускай мове статусу, роўнага са статусам беларускай мовы. Падкрэсліваю: не статусу дзяржаўнай мовы, не асаблівага, а **роўнага**. І вось — 1996/1997 навучальны год. Беларускіх школ у Мінску — 17. У Гродне, дзе ў 1995/1996 навучальным годзе было 27 беларускамоўных школ, свой статус захавалі толькі 3 школы. Рэзка ўзрасла колькасць рускамоўных школ і класаў. Праз год пасля абрання першага прэзідэнта Рэспублікі Беларусь колькасць школ з рускай мовай навучання павялічылася, напрыклад, у Гомельскай вобласці з 14,5% да 60,3%, Віцебскай — з 18,3% да 42,9%, Магілёўскай — з 17,2% да 42,9%. І гэтая тэндэнцыя, гэты працэс усё больш набіраюць сілу. Калі б у мяне былі сённяшнія лічбы, яны б былі яшчэ больш непрыемныя. Таму я хацеў бы папрасіць паважанага Аляксандра Рыгоравіча, калі яму ягоныя памочнікі кладуць на стол паперы з чуллівымі словамі старой прапаганды аб шчаслівым жыцці і росквіце беларускай мовы, даражыць сваёй пасадай прэзідэнта і не падпісваць нахабную ілавочную хлусню.

Смешна выглядаюць пры тлумачэнні такіх з'яў спасылкі на аб'ектыўныя заканамернасці развіцця, на глабальныя інтарэсы. Дзе “геапалітычныя карані” таго, што кіраўнікі парламенту нядаўніх часоў Станіслаў Шушкевіч, Мечыслаў Грыб, Сямён Шарэцкі вялі пасяджэнні па-беларуску, а сённяшнія старшыні так званых палат Анатоль Малафееў і Павел Шыпук не дазваляюць сабе апусціцца да “мужычай” мовы таго народа, які яны так смела збіраюцца весці да дабрабыту і росквіту? Што, беларусы ўсе раптам адмовіліся ад матчынай песні, ад бацькоўскіх казак? Што, сапраўды, вялікі славянін сучаснасці Аман Тулееў лепей ведае нас, сцвярджаючы, што 80% беларусаў лічаць роднай рускую мову, хаця, па афіцыйных даных апошняга, 1979 года, перапісу насельніцтва. 74,5% грамадзян нашай Радзімы назвалі роднай мову беларускую? Чаму тыя дзяржаўныя служачыя, якія свабодна валодаюць дзяржаўнай беларускай мовай, як, напрыклад, міністр замежных спраў Іван Антановіч, дэманстратыўна перасталі карыстацца ёю ў сваіх выступленнях і на прэс-канферэнцыях у Мінску?.. Дзе тут вялікі розум і вялікая культура, дзе тут у рэшце рэшт элементарная павага да аднаго са старажытнейшых славянскіх народаў?..

Да чаго прыводзіць сённяшняя нацыянальная палітыка — назавём гэта так — вышэйшых эшалонаў беларускай улады, відаць на прыкладзе, які, можа быць, для тагосяго здаецца дробным. Я маю на ўвазе загад №135 ад 16 красавіка 1997 года дырэктара Наваполацкай ЦЭЦ Ул.А.Лебедзева, які тут ужо цытаваў паважаны Радзім Гарэцкі: “В связи с тем, что большинство работников ТЭЦ не владеет в совершенстве белорусским языком и в соответствии со ст.17 Конституции Республики Беларусь, которая определяет Государственными языками в РБ белорусский и русский, приказываю: 1. Всему руководящему составу управления ТЭЦ, начальникам цехов, отделов и служб оперативную и техническую документацию вести только на русском языке. 2. Зам.директора по кадрам Дятлову В.В. внести соответствующие изменения в инструкцию по делопроизводству. 3. Приказ объявить всем работникам ТЭЦ”. Вось такі братэрскі “клопат” ураджэнца Іванаўскай вобласці Расіі аб культуры нашай мовы, аб захаванні Канстытуцыі. Вось такая роўнасць, сцверджаная ўсенародным рэферэндумам...

Той-сёй можа мне сказаць: ну чаго не бывае ў жыцці, хапае яшчэ ў нас і бяздумных бюракратаў, і не дужа адукаваных адміністратараў. Так. Але ж ніхто з прадстаўнікоў улады, якія так аберагаюць у нас вынікі розных апытанняў і пагадненняў, не толькі не спагнаў з гэтага шавініста-дзяржымордьі (дарэчы, гэтае азначэнне не маё, а Уладзіміра Ільіча Леніна), а нават не даў ацэнкі гэтаму грубейшаму парушэнню Канстытуцыі і правоў чалавека. Чаго маўчаць? Чаго ім вочы засланіла — гэта ж надрукавана ў многіх тысячах экзэмпляраў?..

Беларускае слова чыноўнікамі розных узроўняў паслядоўна выганяецца з выдавецтваў, бібліятэк, тэле- і радыёперадач, з лепшых памяшканняў сталіцы. Прайдзіцеся па кнігарнях, пагаварыце з выкладчыкамі і навучэнцамі Беларускага гуманітарнага ліцэя, паглядзіце тэлепраграмы і паслухайце радыёперадачы — і вы зразумееце, як няўтульна апошнім часам у роднай Беларусі ўсяму беларускаму. Хіба можа яшчэ ў якой краіне быць заключны канцэрт міжнароднага фестывалю (маю на ўвазе “Славянскі базар”), дзе ніводнай песні не прагучала на мове гаспадароў фестывалю? Хіба ёсць яшчэ ў свеце краіна, дзе кіраўнік дзяржаўную мову называе беднай і неразвітай і выкарыстоўвае з мэтай зняважання сваіх апанентаў? Хіба ёсць яшчэ дзе краіна, дзе кіраваць навукаю і культураю ставяць чалавека, які не толькі элементарна, на ўзроўні сярэдняй школы, не ведае культуры, а і адкрыта не паважае яе?

Таму не дзіўна і лагічна, у якіх цяжкіх умовах даводзіцца працаваць Таварыству беларускай мовы. Спынена фінансаванне газеты “Наша слова”. Павялічана ў 10 разоў арэндная плата за офіс. У нас няма сродкаў на выданне матэрыялаў навуковых канферэнцый па праблемах развіцця беларускай мовы. На шыі Таварыства ў сувязі з усім гэтым вісяць шматмільённыя даўгі, хаця кошту ўсяго аднаго залпу нядаўняга святочнага феерверку хапіла б, каб мы з імі разлічыліся. Але дзяржаву лёс беларускай мовы, яе прыхільнікаў і працаўнікоў, як кажуць, мала турбуе. У яе, відаць, іншыя задачы і намеры. Вось я і звяртаюся, як гэта мне ні горка і сорамна рабіць, да ўсіх вас з просьбай падтрымаць Таварыства беларускай мовы, аказаць яму пасільную матэрыяльную дапамогу. Іначай непазбежна паўстане пытанне аб роспуску ці самаліквідацыі нашай арганізацыі...

Я пачуў нядаўна, што наш з'езд — гэта палітыканства і яшчэ трэба падумаць, ці пускаць нас сюды. Вельмі цікава атрымліваецца: калі тыя факты, якія я прыводзіў, — гэта, аказваецца, правільная дзяржаўная палітыка, а тое, што мы крыкам крычым часам (можа, сапраўды форма залішне эмацыянальная) у абарону беларускасці, у абарону мовы, у абарону дзяржаўнасці, у абарону роднай зямлі, — крытыканства, дык да якога ж маральнага падзення трэба дайсці, знаходзячыся вельмі высока ў дзяржаве, каб так гаварыць, так думаць, у гэткім пераконваць іншых?!

Урэшце, у канцы можна спытаць: дык што ж, нічога вясёлага нас не чакае? Я не хацеў бы так заканчваць сваё выступленне.

Нам Бог (не прэзідэнт, не братнія народы, не Арганізацыя Аб'яднаных Нацый) даў гэтую зямлю. І няма больш нідзе ў свеце Беларусі, акрамя гэтай зямлі.

Нам Бог даў нашу беларускую мову, родную з многімі, не падобную на многіх.

І мы, беларусы, калі маем годнасць і калі мы сапраўды беларусы, не павінны нікому ні нашай зямлі, ні нашай мовы, ні нашай дзяржавы.

Будзем мы, беларусы, жыць на Зямлі — будзе жыць наша Беларусь!

## ДЭКЛЯРАЦЫЯ

**сэсіі Эўрапэйскага сэктару**
**Рады Беларускае Народнае Рэспублікі**

Незалежнасьць Беларускай Народнай Рэспублікі, абвешчаная Актам 25 Сакавіка 1918 году, сталася выяўленьнем сувэрэнных правоў Беларускага народу на самавызначэньне ў часы вялікага гістарычнага пераломy па распадзе Расейскай імпэрыі.

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі была й застаецца адзіным праўным прадстаўніцтвам незалежнай дзяржавы Беларускага народу, яе гістарычная легітымнасьць і правы вынікаюць з паўнамоцтваў, дадзеных ёй Усебеларускім Кангрэсам 31 сьнежня 1917 году, і пацьвярджаюцца ўсёй яе бесперапыннай дзейнасьцю ва ўмовах войнаў, акупацыяў і вымушанага выгнаньня.

У адказ на пагрозу канчатковай страты Беларускай Незалежнасьці і ператварэньня Беларусі ў калёнію новай Расейскай імпэрыі, перад Богам і Беларускім народам Рада БНР пацьвярджае намер няўхільна і пасьлядоўна выконваць волю Беларускага народу, выказаную ў Акце 25 Сакавіка 1918 году — **адбудоўваць і бараніць незалежную беларускую дзяржаўнасьць усімі магчымымі й даступнымі спосабамі й шляхамі, у Беларусі й паза яе межамі.**

Жыве Беларусь!

Вільня, 6 ліпеня 1997.

Галіна Сяргеева

# БЕЛАРУСКАЯ ПРЫСУТНАСЦЬ У ЗАМЕЖНЫХ КРАІНАХ

«ЗГОДА»

***Эміграцыя, як сведчыць сусветны вопыт, з'яляецца дзейсным фактарам у гісторыі Бацькаўшчыны, а яе палітыка ў дачыненні да замежных суайчыннікаў істотна ўплывае на лёс дыяспары. нацыянальнай супольнасці ў замежжы.***

### КОЛЬКІ І ДЗЕ

Па-за межамі Беларусі сёння пражывае 3-3,5 млн. беларусаў, шмат іншанацыянальных выхадцаў з беларускай зямлі. Трэць беларускай нацыі рассеяна па свету.

Найбольш сканцэнтраваны беларусы ў суседніх дзяржавах, пры гэтым на цяпер памежных тэрыторыях жывуць на сваіх этнічна спрадвечных землях, з'яўляюцца карэнным насельніцтвам. Ад 250 да 400 тысяч беларусаў, па звестках даследчыкаў, пражывае ў Польшчы — *галоўным чынам на Беласточчыне.*

Пасля распаду СССР больш за два млн. беларусаў апынуліся па-за Беларуссю. У наступныя гады вызначылася тэндэнцыя да вяртання суродзічаў на Бацькаўшчыну, хоць адначасова выразна выявілася і запавольванне гэтага працэса. Апошняе выклікана пагаршэннем сацыяльна-эканамічнага становішча на Бацькаўшчыне, цяжкасцю ўладкавання, бо рэпатрыяцыя суродзічаў праводзіцца без дзяржаўнай падтрымкі. У 1992-1995 гг. Беларусь прыняла з новых незалежных дзяржаў 287 тыс. асоб ( з іх амаль 150 тыс. беларусаў ). Цяпер на постсавецкай прасторы сканцэнтравана пераважная большасць усіх замежных беларусаў. У Расіі іх больш за 1 млн. 100 тыс. асоб ( у тым ліку ў Маскве — 70 тыс., у С.-Пецярбургзе — 70 тыс. ), Украіне — больш за 400 тыс. ( у тым ліку ў Кіеве — 30 тыс. ), у Казахстане — 170 тыс., Латвіі — амаль 100 тыс., Літве — 50 тыс., Эстоніі — 25 тыс. і г.д.

Акрэсленыя асяродкі нашых суродзічаў пасля Другой сусветнай вайны ёсць дагэтуль у Германіі, Францыі, Англіі, Бельгіі і іншых еўрапейскіх краінах. Значная іх прысутнасць на амерыканскім кантыненце — у ЗША, Канадзе, Аргенціне, Бразіліі. Некалькі тысяч беларусаў і выхадцаў з нашых зямель аселі ў Аўстраліі ( Сідней, Мельбурн, Паўднёвая Адэлаіда ). На афрыканскім кантыненце пражываюць у асноўным сучасныя перасяленцы па сямейных прычынах (так званая шлюбнаяая эміграцыя).

### ГІСТАРЫЧНАЯ РОЛЯ ДЫЯСПАРЫ

Менавіта эміграцыя доўгія гады зберагала ідэю дзяржаўнасці, незалежнасці Беларусі, гістарычныя нацыянальныя сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і герб "Пагоня". Яна жорстка крытыкавала таталітарную савецкую сістэму, раскрывала наступствы яе панавання на Бацькаўшчыне — працэсы асіміляцыі, дэнацыяналізацыі, разбурэння беларускай спадчыны, культуры, абуджала нацыянальную свядомасць, несла праўду пра Беларусь, яе гісторыю і гаротны нацыянальны стан па свеце.

Дзякуючы працы, талентам і самаахвярнасці многіх беларускіх патрыётаў у замежжы існуюць грамадскія, палітычныя, асветна-культурныя, навуковыя, рэлігійныя арганізацыі, суполкі мастакоў, нацыянальны друк і асвета, пабудаваны храмы, створаны бібліятэкі беларускай літаратуры, музеі, архівы, дзейнічаюць хоры, мастацкія калектывы. Яны сталі духоўнай асновай нацыянальнага самавызначэння, садзейнічаюць захаванню і перадачы нашчадкам традыцый свайго народа, яго мовы, культуры, гісторыі, выяўленню сваёй самабытнасці.

Важны набытак эміграцыі і замежных суродзічаў на сваіх, спрадвечна этнічных землях — імі створаны багаты пласт беларускай культуры, творы літаратуры, выяўленчага і музычнага мастацтва. Нашай грамадскасцю асэнсоўваецца творчая і навуковая спадчына беларускага замежжа, якая ўжо стала адным з фактараў нацыянальнага адраджэння ў самой Беларусі.

Апублікаваны навуковыя і літаратурныя творы суайчыннікаў, арганізоўваліся іх мастацкія выставы. Адбыліся дзве міжнародныя канферэнцыі "Культура беларускага замежжа". Неардынарная з'ява — заснаванне і развіццё ў замежжы беларускай нацыянальнай царквы. Цяпер у ЗША, Канадзе, Вялікабрытаніі, Аўстраліі дзейнічаюць больш за 20 прыходаў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы, беларускія прыходы юрысдыкцыі канстанцінопальскага патрыярха, беларускія каталіцкія (уніяцкія) місіі ў Лондане, Парыжы і парафія ў Чыкага. Царкоўна-рэлігійнае жыццё на нацыянальнай аснове складваецца і на постсавецкім абшары.

### ПРАБЛЕМА ДЫЯСПАРЫ

Па-першае, затухае беларускае жыццё ў заходняй дыяспары. Адыходзіць пакаленне выгнаннікаў, эмігрантаў Другой сусветнай вайны. Пры адсутнасці прытоку новых перасяленцаў (у СССР не было свабоднага ўезду і выезду) адбываўся разрыў паміж пакаленнямі. Дэнацыяналізаваныя новыя перасяленцы, як правіла, не ўключаюцца ў нацыянальна-арыентаваныя беларускія асяродкі пасляваеннай эміграцыі, не ствараюць на Захадзе ўласных арганізацый. Выключэнне складае заснаванае ў 1993 годзе ў Нью-Йорку Сусветнае згуртаванне яўрэяў Беларусі.

Другая тэндэнцыя ў жыцці дыяспары — самавызначэнне беларусаў, іх арганізацыйнае аб'яднанне на постсавецкім абшары. Цяпер некалькі дзесяткаў беларускіх таварыстваў, згуртаванняў, цэнтраў праводзяць культурна-асветніцкую, грамадскую дзейнасць у Расіі, на Украіне, у Малдове, Літве, Латвіі, Эстоніі, Казахстане, Кыргізстане, Узбекістане. Першы з'езд беларусаў свету паскорыў гэтыя працэсы, але падзеі трох апошніх гадоў на Радзіме ўскладнілі выжыванне дыяспары, паставілі пад пытанне яе далейшы лёс.

Калі ж гаварыць аб сітуацыі ў цэлым, то яе можна вызначыць як крызісны стан беларускага замежжа.

Замежныя суайчыннікі слаба арганізаваны, раз'яднаны па ідэалагічных, палітычных матывах, адносінах да незалежнасці Беларусі. На гэтай падставе адсутнічае паразуменне паміж беларускімі суполкамі ў Маскве, Рызе, Таліне і інш.

Усходнія дыяспары не маюць кардынацыйных органаў, якія, напрыклад, дзейнічаюць у Польшчы і Канадзе. Дзеянні суродзічаў не ўзгаджаюцца ў межах асобных дзяржаў і паміж імі.

На постсавецкай прасторы (акрамя Латвіі і Літвы) адсутнічае беларускі перыядычны друк. Існуе пэўная канфесійная раз'яднанасць.

### ДЗЯРЖАВА І ДЫЯСПАРА

Слабая матэрыяльная база нацыянальнай, грамадскай, культурна-асветніцкай і іншай дзейнасці тлумачыцца вельмі сціплай у большасці краін падтрымкай мясцовай улады, занядбанасцю гэтай справы з боку Бацькаўшчыны, слабым падключэннем да фінансавання нацыянальных суполак прадпрымальнікаў беларускага паходжання.

Самай жа галоўнай праблемай, якая вызначае існаванне і ўстойлівасць беларускай дыяспары, захаванне яе як часткі народа, з'яўляецца стан нашай дзяржаўнасці, пагроза знікнення з карты сусвету незалежнай Беларусі, спад нацыянальна-культурнага адраджэння, неадназначнае стаўленне кіраўнічых органаў Беларусі да замежных суайчыннікаў, у прыватнасці да нацыянальна-акрэсленых арганізацый, якія выказваюцца за незалежную, дэмакратычную Беларусь.

Паколькі ў патэнцыяле Айчыны ёсць частка працы эмігрантаў, іх продкаў, дзяржава абавязана прызнаць пэўныя правы дзеля захавання іх інтарэсаў у краіне іх паходжання, гістарычнай Айчыне.

Іншыя краіны разумеюць гэта і праяўляюць клопаты пра сваіх замежных суайчыннікаў праз развіццё сістэмы нацыянальнай адукацыі, падтрымку друку і іншай нацыянальна-культурнай дзейнасці ў рэгіёнах іх кампактнага пражывання. У Беларусі на дзяржаўным узроўні таксама была ў 1993 годзе прынята праграма "Беларусы ў свеце". Але яна фактычна згорнута.

### "БАЦЬКАЎШЧЫНА" І БАЦЬКАЎШЧЫНА.

Немалую дзялянку дзяржаўнай працы па ўзаемадзеянню з дыяспарай узялі на сябе грамадскія структуры. Цяпер існуюць дзве такія арганізацыі — "Бацькаўшчына" і "Радзіма". Мэта іх — ладзіць сувязь паміж Бацькаўшчынай і суайчыннікамі. Праўда, пра таварыства "Радзіма" цяжка гаварыць як пра грамадскую структуру: яна ўтрымліваецца дзяржавай. А таму ўлады самі вырашаюць там многія пытанні. Цяпер існуе пагроза закрыцця адзінай газеты для замежных суайчыннікаў — "Голас Радзімы". А вось да ЗБС "Бацькаўшчына" ўлады ставяцца як да камерцыйнай установы, якія, як вядома, задушаны падаткамі, высокім коштам арэнднай платы. Для грамадскага некамерцыйнага ЗБС "Бацькаўшчына", якое выконвае місію дзяржаўнай важкасці, з боку ўлады варта было б стварыць больш спрыяльныя ўмовы для працы.

"Бацькаўшчына" — ініцыятар першых форумаў беларусаў: Сходу беларусаў блізкага замежжа, Першага з'езду беларусаў свету. Больш тысячы дэлегатаў з'езду, прадстаўнікі беларускіх арганізацый з нашай краіны і эміграцыі, прынялі зварот да парламента і ўрада Беларусі, дзе вызначыны найбольш актуальныя праблемы ўзаемасувязі з замежнай беларускай супольнасцю. Але як ранейшыя, так і цяперашнія органы ўлады нічога істотнага не зрабілі для іх рэалізацыі.

(Працяг з 2-ое стар.)

рактарызаваліся стылем памяркоўнай развагі, а пастаўленыя ім тэзісы і дакананыя сьцьверджаньні — падбудаваныя фактамі і неабходным абгрунтаваньнем.

Праяўлены стыль памяркоўнасьці здамінаваў і спрэчкі ўдзельнікаў спатканьня, у якіх прысутныя пацьвердзілі мэтазгоднасьць актывізацыі Рады БНР, як легітымнага дзяржаўнага воргана, як сімвала незалежнасьці Беларусі ў выпадку яе акупацыі.

Прафэсар А. Баршчэўскі з Польшчы ў сваім выступленьні заявіў: «Ідэя аб'яднаньня Беларусі з Расеяй у форме фэдэрацыі альбо канфэдэрацыі папхне наш народ у бок пропасьці. Лёс беларускага народу прыпадобніцца да лёсу нацыянальнай беларускай меншасьці ў Расеі, якая налічвае каля паўтара мільёна чалавек». Меншасьць гэтая — сьцьвярджаецца далей — ня мае ні адной беларускай школы, газэты, тэлебачаньня, калі такой самай колькасьці меншасьць расейская на Беларусі мае тысячы сваіх газэт, расейскамоўных школаў, расейскамоўныя інстытуты і тэлебачаньне, царкву, а нават мову расейскую ў установах Беларусі. Так выглядае тая «братэрская роўнасьць». «Існаваньне Рады БНР мае глыбокі сэнс, матывацыю і апраўданьне», заявіў А. Баршчэўскі ў сваім выступленьні (пераказаным дырэктаркай Беларускай Сэкцыі Польскага Радыё — Нінай Баршчэўскай із за немагчымасьці прысутнічаць асабіста).

За актывізацыю Рады БНР выказаліся госьці з Бацькаўшчыны: праф. А. Грыцкевіч, акадэмік В. Гарэцкі, (які падкрэсьліў клопат за беларускую прысутнасьць у сьвеце), і А. Лашук. Сп. В. Вячорка зьвярнуў, між інш, увагу на неабходнасьць інфармацыйнай дапамогі, помачы студэнтам пакрыўджаным сяньняшнім рэжымам у краіне і на неабходнасьць поўнае актывізацыі Рады БНР «калі разьвіцьцё падзеяў на Беларусі будзе ісьці *паводле найгоршага сцэнару*».

В. Станкевіч падкрэсьліў, што аднаўленьне Рады БНР — гэта працэс (а не аднаразовая акцыя) місыяй якога — *незалежнасьць нацыянальна-дэмакратычнай Беларусі.* Да спаўненьня місыі патрэбная канкрэтная праца, перш за ўсё моладзі, але «незалежнасьць Беларусі адбудзецца толькі ў Беларусі». Заданьнем Рады БНР на чужыне, гэта помач дэмакратычным рухам у краіне, пашырэньне цікавасьці сьвету для Беларусі і галоўна праблема прадстаўнічасьці ў сьвеце, — заявіў В. Станкевіч. Зазначыў, што ў тэзісах апрацаваных Б. Рагулем да праекту маніфэсту шмат цікавых пунктаў, якія будуць абмяркоўвацца на паседжаньні абноўленай Рады БНР.

У выніку дыскусыі ўтварыліся сэкцыі:

1. Статутовая, якая запрапанавала дастасаваньне статуту Рады БНР да сяньняшніх умоваў у сьвеце.

2. Сэкцыя па выпрацоўцы накірункаў працы Рады БНР., з якіх важнейшыя гэта: папулярызацыя Рады БНР у сьвеце, а галоўным чынам у парлямэнтах і міжнародных арганізацыях, падрыхтоўка Рады да ролі гаранта незалежнасьці ў выпадку анэксыі Беларусі, забясьпячэньне фондаў для дапамогі Беларусі, інфармацыйнае змаганьне за Беларусь і праблема грамадзянства БНР.

3. Гісторыка архіўная сэкцыя разглядала праблему адбудовы архіваў, згуртаваньня дакумантаў Рады ў адно месца.

Прапановы сэкцыяў будуць абмяркоўвацца на паседжаньні Рады БНР.

На заканчэньне былі прынятыя прысутнымі: дэкларацыя сабраньня, заява аб палітычным становішчы на Беларусі, рэзалюцыя аб этнічнай дэскрымінацыі Беларусаў, зварот да Кангрэсу ЗША ў справе радыё «Свабода».

Выконваючым часова абавязкі прадстаўніка эўрапэйскай сэкцыі Рады БНР, быў абраны С. Навумчык.

Я. Ж. (Польшча)



## Памёр Лявон Луцкевіч

Нам паведамляюць, што ў Вільні ў сталым веку памёр Лявон Луцкевіч, ведамы і заслужаны дзеяч на ніве беларускага адраджэньня. Лявон Луцкевіч быў сынам усім беларусам ведамага Антона Луцкевіча.

Лявон Луцкевіч мужна прайшоў цярністы шлях жыцьця, заўсёды і верна служачы беларускай вызвольнай справе.

Вечная Памяць!

## ЮБІЛЕЙ скарынінскай Бібліі

У Празе, Чэхія гэтым летам рыхтуецца шмат культурных мерапрыемстваў, прысьвечаных 480-годзьдзю Бібліі, выдадзенай Францішкам Скарынам.

У рамках урачыстасьцяў плянуецца арганізацыя Скарынінскіх чытаньняў, кніжных выставак і сьвяточнага Богаслужэньня ў кафедральным саборы сьвятых Кірылы і Мефодзія.

У гэтым урачыстым юбілеі прымуць удзел дэлегацыі Беларусаў з розных краін сьвету, у тым ліку і з ЗША.

## *Сьпіс Падрыхтаваны...*

Мы даведаліся, што закончылася ўкладаньне сьпісу цяперашніх дзяржаўных чыноўнікаў у Беларусі, якія сьведама і заўзята працуюць у напрамку зьнішчэньня незалежнасьці і сувэрэнітэту Беларусі, насільна русыфікуюць і абалваньваюць застрашаны і загнаны народ ды набіваюць сабе кішэні грабячы зьбяднелае насельніцтва. Праўдападобна, гэты сьпіс распачынпе прэзыдэнт Лукашэнка...

# РАСІЯ І БЕЛАРУСЬ: МОЎНЫЯ КАНТРАСТЫ

Спэцыяльна для «Беларускага Дайджэсту»

Ніводнаму народу за час свайго існаваньня не ўдалося стварыць нічога больш важнага і каштоўнага за мову. І таму нядзіва, што той з народаў, які не жадае растварыцца сярод іншых, а гэта значыць і сысьці ў нябыт, так па-бацькоўску шануе родную мову, робіць яе сфэрай дзяржаўнай палітыкі. Добры прыклад у гэтым паказвае рускі народ, ад якога нам, беларусам, шмат чаго карыснага можна пераняць, у прыватнасьці, з практыкі дзяржаўнага рэгуляваньня моўнымі працэсамі. Можа ня ўсе ведаюць, дык нагадаю, у гэтай краіне ўжо колькі гадоў таму створаны Савет па рускай мове пры Прэзідэнце Расійскай Фэдэрацыі.

Руская мова, у адрозьненьне ад нашай, у сябе на радзіме знаходзіцца па-за канкурэнцыяй, а вось, аказваецца, патрэба ў такім Савеце існуе. У нас-жа нікому ў галаў не прыйдзе думка стварыць пры прэзыдэнце краіны Савет па беларускай мове, хоць і не першы год яна дыхае на ладан. А калі-б у каго-небудзь узьнікла такая прапанова, напэўна-ж, адказалі-б: "Што, у прэзыдэнта больш важных спраў няма?" ці "Што, вам майскага рэфэрэндуму 1995 года мала?"

І гэта яшчэ ня ўсё, што зроблена ў Расіі ў пытаньнях мовы. Тут, не ў прыклад Беларусі, ціха і спакойна, без усялякага шуму, без парады з народам праз рэфэрэндум прынялі фэдэральную мэтавую праграму "Русский язык", якая была зацьверджана ўрадам РФ 23 ліпеня 1996 году. Проста ўражвае, з якімі велізарнымі клопатамі, любоўю падышлі дзяржаўныя дзеячы, вучоныя да распрацоўкі канкрэтных практычных захадаў па ўмацаваньні сацыяльных функцыяў рускай мовы ў сябе дома, краінах СНД і павышэньні яе прэстыжнасьці ў цэлым сьвеце. Міжвольна падумалася, вось-бы што-небудзь падобнае па павышэньні сацыяльнай ролі беларускай мовы ў сябе дома пачытаць у аналагічным дакумэнце нашага ўраду. А то ўсё неяк пры вырашэньні пытаньняў моўнай палітыкі мы зьвяртаемся толькі да думкі натоўпу, рэфэрэндумаў, якія, як сьведчыць набыты намі вопыт, дапамагаюць адраджэньню, пашырэньню сфэры ўжываньня беларускай мовы ў грамадзкім жыцьці ня больш, як кашаль хваробе.

Паколькі абсалютная большасьць палітыкаў і самога грамадзтва канчаткова пераканалася, што майскі рэфэрэндум 1996 г. ня толькі не прыпыніў, а, наадварот, паспрыяў і працягвае спрыяць далейшаму выцясьненьню беларускай мовы з усіх дзялянак жыцьця-дзейнасьці чалавека, ізноў на ўвесь рост на парадак дня становіцца пытаньне, як-жа ўсё-такі выратаваць гэты наш бясцэнны духоўны скарб ад поўнага заняпаду, а сам народ ад асыміляцыі? Ад радасьці мне хочацца крыкнуць: "Ура! Выйсьце ёсьць! Яно ў расійскай мэтавай праграме "Русский язык". Толькі трэба ў распрацаваных у ёй палажэньнях скрозь на месца "русский язык" ставіць "беларуская мова", на месца "Россия" ("Российская Федерация") — "Беларусь" ("Рэспубліка Беларусь"). Паправу чытача самому зрабіць такія замены хоць-бы ў наступныя сказы і вытрымкі з Праграмы з тым, каб пераканацца, як здорава будзе атрымоўвацца ў нас: "Русский язык является государственным языком Росии...", "...в настоящее время необходимо обеспечить на общегосударственном уровне поддержку русского языка...", Программа предусматривает усиление позиций русского языка в России..."

А колькі карыснага, павучальнага для нас у дакладна, канкрэтна сфармуляваных мэтах Праграмы! Ну хоць-бы, скажам, у такіх з іх: "фармаваньне дзяржаўнай палітыкі ў галіне рускай мовы", "разьвіцьцё і падтрымка рускай мовы як нацыянальнай мовы рускага народу і дзяржаўнай мовы Расійскай Фэдэрацыі" ( так і хочацца сказаць: Якая геніяльнасьць думкі! Нам-бы такога. — Л. Л.); "распрацоўка камплексных захадаў, накіраваных на прапаганду рускай мовы і культуры ў сродках масавай інфармацыі" ( у нас адносна беларускай мовы такой прапаганды ў СМІ ўжо не чуваць больш як тры гады!? — Л. Л.).

Наперад прадбачу, якая зайздрасьць ахопіць шчырых прыхільнікаў беларускага слова, калі скажу, што ў Праграме прысутнічаюць такія важныя разьдзелы: "Руская мова як дзяржаўная мова Расійскай Фэдэрацыі. Дзяржаўная палітыка ў галіне рускай мовы", "Руская мова як нацыянальная мова рускага народу, аснова яго духоўнай і мастацкай культуры" (уяўляю, як ухопіцца за гэты тэзіс Міністэрства культуры і з якім гартам пачне ў аснову духоўнай і мастацкай культуры Беларусі закладваць яе родную мову! — Л. Л.).

Хацелася-б, каб як мага хутчэй з Праграмай пазнаёміўся апарат работнікаў Міністэрства адукацыі з мэтай аналізу і дастасаваньня яе палажэньняў да беларускай мовы. Раю ў першую чаргу зьвярнуць увагу на наступныя з іх: "стварэньне адзінай сыстэмы моўнай адукацыі" (тут-жа ў нас несусьветны хаос, а Расія дае нам такое просьценькае рашэньне! — Л. Л.); "узмацненьне кантролю за якасьцю выкладаньня рускай мовы"; "увядзеньне курсу рускай мовы на прыродазнаўчых факультэтах унівэрсытэтаў і ў тэхнічных ВНУ..." Толькі не забудзьцеся, калі ласка, пры перанясеньні гэтых слушных думак у айчынную адукацыю замест слоў "руская мова" ўжываць "беларуская мова", бо павышаць ролю першай у практыцы нашых навучальных установаў няма аніякай патрэбы, Рускай мовай яны сытыя па горла.

Практычна без усялякіх выняткаў можна перасадзіць у беларускую глебу ўсё, што ў Праграме гаворыцца пра ролю рускай мовы ў сродках масавай інфармацыі, замяніўшы, як і ва ўсіх астатніх выпадках, словы "русский язык" на "беларускую мову". Улічваючы надзвычай слабыя пазыцыі апошняй у дзейнасьці нашых СМІ, пастараюся з мэтай прышчапленьня тут ідэі беларускасьці як мага больш прывесьці карысных для нас палажэньняў Праграмы: "павышэньне з дапамогай сродкаў масавай інфармацыі агульнай моўнай культуры грамадзян, выхаваньне ў іх павагі да рускай мовы", "павышэньне ўзроўню валоданьня нормамі і выяўленчымі сродкамі рускай мовы журналістаў сродкамі масавай інфармацыі і электроннай прэсы", "аднаўленьне сыстэмы сталых тэле- і радыёперадач па актуальных праблемах рускай славеснасьці", "арганізацыя ў сродках масавай інфармацыі шырокага абмеркаваньня актуальных праблемаў сучаснага стану рускай мовы". Аналізаваць гэтыя палажэньні, думаю, не варта, бо нават чалавеку з пачатковай адукацыяй зразумела, калі ўрад Расіі занепакоены месцам рускай мовы ў СМІ, дык у нашага ўрада, грамадзкасьці такая занепакоенасьць павінна быць у дзесяткі разоў большай, бо так, як сёньня, яшчэ ніколі не ігнаравалася беларуская мова на гэтым важным участку ідэялагічнай, культурна-асьветніцкай работы.

Цалкам падзяляю непакой аўтараў Праграмы, што "ў рускую мову ўсё больш укараняюцца вульгарныя, а часам і проста непрыстойныя выразы, яна засьмечваецца жаргоннымі словамі і зваротамі, неапраўданымі запазычваньнямі з замежных моў". У сувязі з гэтым, лічу, вельмі недарэчным бытаваньне ў рускай, а таксама і ў мовах іншых краін СНД, слова "афганцы". Цяпер ні для каго не зьяўляецца сакрэтам, што СССР ня меў аніякіх падставаў распачынаць вайну з Афганістанам, выступіў у ёй у якасьці агрэсара. І вось з нечай лёгкай рукі ўдзельнікаў гэтай брудная вайны сталі называць "афганцамі". Расія, як вядома, ваявала з многімі краінамі, да прыкладу, пры Пятры Вялікім са швэдамі і туркамі, пры Мікалаю II — з японцамі і немцамі, СССР пры Сталіне — з немцамі, аднак тагачасныя палітыкі не дпдумаліся да таго, каб расейскіх і савецкіх салдатаў, што ўдзельнічалі ў тых войнах, называць "воінамі-швэдамі", "воінамі-туркамі", "воінамі-японцамі", "воінамі-немцамі". Для вайны-ж з Афганістанам ідэялагічныя службы КПСС, дзяржаўныя і ваенныя палітыкі зрабілі выключэньне. Часта ў галаў прыходзіць трывожная думка: хоць-бы хто-небудзь не прапанаваў называць удзельнікаў вайны з Чачнёй "воінамі-чачэнцамі". Суцяшае толькі адно, што там было мала беларусаў, таму на нашай зямлі наўрад ці гэтае слова прыжывецца.

Не выклікае ў мяне сумненьня правільнасьць агульных высноў з Праграмы, што рэалізацыя прадугледжаных у ёй "мерапрыемстваў будзе садзейнічаць сацыяльна-эканамічнаму (падкрэсьлена мною. — Л. Л.) і духоўнаму адраджэню і абнаўленьню Расіі", што "далейшае разьвіцьцё і аптымальнае выкарыстаньне рускай мовы ва ўсіх сфэрах яе функцыянаваньня прывядзе да прымнажэньня духоўнага багацьця і эканамічнай магутнасьці (падкрэсьлена мною. — Л. Л.) расійскай дзяржавы". Як бачым, павышэньнем ролі рускай мовы Расія разлічвае нават вырашыць шэраг праблемаў сацыяльна-эканамічнага парадку! Таму, адчуваючы вострын недахоп у грашовых сродках, усё-ж знайшла ў Фэдэральным бюджэце 825 млрд. руб. на фінансаваньне Праграмы. А нашы-ж гарадзкія ўлады Менска, як толькі могуць, скубуць з Таварыства беларускай мовы, якое ад беднасьці аж патрэскалася, грошы за арэнду памешканьня, ацяпленьне, асьвятленьне, выкарыстаньне плошчы пад кніжныя кіёскі, не адпускаюць аніякіх сродкаў на правядзеньне мерапрыемстваў з мэтай выратаваньня беларускай мовы. За ўвесь час выданьня газэты ТБМ "Наша слова" (выходзіць з сакавіка 1990 г.) з дзяржаўнага бюджэту ёй выдзялялі крайне мізэрныя сродкі.

Мяркую, што многіх, як уласна і мяне, зьдзівіць, што на амаль дзьвюх газэтных старонках самога тэксту Праграмы ні разу не сустрэнеш слова "рэфэрэндум". Гэта-ж трэба, на такіх велізарных прасторах Расіі з яе поліэтнічным насельніцтвам браццa за вырашэньне моўнай праблемы і зусім пакінуць у баку думку аб ёй народу?! Усё вырашылі за яго — і вырашылі на выдатна — кампетэнтныя вучоныя і палітыкі. Заканамерна ўзьнікае пытаньне: Дык ці варта было нам пароць гарачку з рэфэрэндумам у маі 1995 г.? Тым больш, што пасьля яго аніякіх адраджэнскіх працэсаў у беларускай мове не назіраецца. Наадварот, скрозь назіраецца падзеньне яе сацыяльнай ролі. Нонсэнс: Беларусь стала сувэрэннай дзяржавай, а родная мова яе тытульнай нацыі няўхільна коціцца ў непраглядную бездань. Заўважу, што з усіх саюзных і аўтаномных рэспублік, нацыянальных абласцей і акругаў былога СССР толькі Беларусь правяла рэфэрэндум па мове. Хто тады з іх ідзе не ў нагу? Няўжо ўсе, акрамя Беларусі?!

Жыцьцё ніколі не стаіць на месцы. Яно мае права ўносіць карэктывы ва ўсе раней прынятыя нарматыўныя акты, асабліва, калі высьвятліцца, што апошнія не забясьпечваюць тых мэтаў, якія меліся на ўвазе пры іх прыняцьці: у нашым выпадку не вядуць да роўнасьці беларускай мовы з рускай. Такі водападзел паміж іх роляй у грамадзтве назіраўся толькі ў час, калі Беларусь у асобе Паўночна-Заходняга краю ўваходзіла ў склад Расійскай імпэрыі. Выйсьце бачу толькі адно: урад Беларусі з прыцягненьнем кампэтэнтных вучоных-філолагаў павінен неадкладна засесьці за вывучэньне Расійскай фэдэральнай мэтавай праграмы "Русский язык" і ўсё, што там дзейнага робіць у дадзенай сфэры, творча пераносіць у нашу практыку. Сувымераць свае крокі з Расіяй вельмі любяць нашыя палітыкі. Таму аніяк нельга ігнараваць і яе сучасную моўную палітыку.

Праўда, у ёй ёсьць і такое, што наводзіць на пэўныя сумненьні, ну хоць-бы такое палажэньне: "Праграма прадугледжвае ўзмацненьне пазыцыяў рускай мовы... у краінах СНД і за іх межамі". Пра гэта, упэўнены, павінны клапаціцца — і клапаціцца з вялікай адказнасьцю — самі краіны СНД, а то хто-небудзь іншы так у іх узмоцніць ролю рускай мовы, што нацыянальныя апынуцца ў падпечку, як гэта на сёньня характэрна для Беларусі. Нельга было аўтарам Праграмы біць у званы, што "скарачаюцца сфэры функцыянаваньня рускай мовы на тэрыторыі былога СССР", бо яна-ж у выніку ажыцьцяўленьня палітыкі КПСС на зьліцьцё культураў і моваў вельмі моцна пацясьніла нацыянальныя мовы, якія пасьля ўтварэньня сувэрэнных краін павінны былі набыць адпаведны ў такіх умовах статус: стаць юрыдычна і фактычна дзяржаўнымі, якімі яны не зьяўляліся да распаду СССР. Таму не сьлёзы трэба ліць, што "мяняецца канцэпцыя

развіцьця нацыянальна-рускага двухмоўя ў былых рэспубліках СССР, што прыводзіць да аслабленьня значэньня рускай мовы ў краінах СНД і Балтыі", а з алімпійскім спакоем згадзіцца з гэтым фактам, бачачы ў ім жалезную заканамернасьць. Трэба прызнаць зусім нерэальным і супярэчным нармальнаму культурнаму разьвіцьцю краін СНД, каб аб'ём сацыяльных функцыяў рускай мовы ў апошніх быў на ўзроўні такіх функцыяў іх нацыянальных моваў.

Сур'ёзныя сумненьні ўзьніклі ў мяне адносна слушнасьці і правамернасьці такога палажэньня Праграмы: "Распаўсюджваньне рускай мовы за рубяжом зьяўляецца важным напрамкам міжнароднай палітыкі Расійскай Фэдэрацыі". На мой розум, вырашэньне дадзенай праблемы ў межах тых ці іншых дзяржаў мусіць цалкам знаходзіцца ў кампэтэнцыі іх адпаведных ворганаў. Што датычыць Расійскай Фэдэрацыі, дык яна можа толькі супрацоўнічаць з апошнімі, усяляк пазьбягаючы навязваньня ім сваёй волі ў моўнай палітыцы. Тут дарэчы нагадаць вельмі папулярныя не гэтак даўно словы Леніна:"...вялікая і магутная руская мова ня мае патрэбы ў тым, каб хто-б то ні быў павінен быў вывучаць яе з-пад палкі" (Творы. Т. 20. с. 55, 56). Таму ня трэба ўпадаць у роспач, што, як адзначана ў Праграме, "у шэрагу краін СНД і Балтыі стварэньне нацыянальных сыстэм адукацыі прыводзіць да згортваньня навучаньня на рускай мове..." Бо інакш і быць ня можа, паколькі з ініцыятывы КПСС сфэра асьветы, асабліва яе вышэйшыя зьвёны, зьведалі за пасьляваенныя гады страшэнную русыфікацыю, што цяпер з поўным правам неадкладна выпраўляецца ва ўсіх былых саюзных рэспубліках, акрамя Беларусі. Захаваць колішнюю ролю рускай мовы ў галіне асьветы гэтых рэспублік можна было-б толькі шляхам адкрыцьця імі новых тэхнікумаў, інстытутаў, унівэрсытэтаў і іншых тыпаў навучальных установаў ужо на нацыянальных мовах. Але-ж у дадатковых навучальных установах у іх няма патрэбы. Таму выйсьце тут толькі адно: зрабіць нацыянальную структуру адукацыі той ці іншай краіны адпаведнай этнічнай структуры яе насельніцтва. А такога-ж, пры ўсім жаданьні, нельга дасягнуць без звужэньня рамак рускай мовы ў адукацыі, паколькі ў савецкі час яна (руская мова) вельмі ўжо вырвалася наперад у гэтай сфэры жыцьця саюзных рэспублік. У Беларусі, як вядома, ужо ад першых пасьляваенных гадоў і па сёньня няма аніводнай сярэняй спэцыяльнай і вышэйшай навучальнай установы на нацыянальнай мове. Расчыніць ёй дзьверы ў такія ўстановы — першачарговая задача дзяржаўнай улады, усёй грамадзкасьці, калі яны толькі па-сур'ёзнаму жадаюць, каб жыцьцё беларускай нацыі працягвалася і ў XXI стагодзьдзі.

Крайне насьцярожвае з-за свайго наступальнага характару такое палажэньне Праграмы: "Намаганьні, накіраваныя на падтрымку рускай мовы ў зарубежных краінах, пашырэньне сфэраў яе выкарыстаньня ў сьвеце, будуць садзейнічаць рашэньню геапалітычных задач Расіі, узмацненьню яе палітычнага ўплыву..." Ці разумна такою роляй надзяляць мову? Шмат чытаў літаратуры па моўнай палітыцы ў замежных краінах, але не знайшоў у ёй нічога падобнага, пра што гаворыцца ў вышэйпрыведзенай цытаце. Шчыра кажу, яна сваёй экспансіўнасьцю можа толькі нашкодзіць рускай мове, адштурхнуць ад яе ўрады і грамадзкасьць многіх краін, бо нашто ім пашыраць на сваёй тэрыторыі сфэру выкарыстаньня рускай мовы, калі гэта будзе садзейнічаць узмацненьню тут палітычнага ўплыву Расіі. Акрамя Беларусі, лічу, на гэта ня пойдуць улады любой краіны сьвету. Не выключана, што ад таго, што Расія так адкрыта і прамалінейна пасоўвае сваю мову ў іншыя краіны з геапалітычнымі мэтамі, там апошнім часам назіраецца дыямэтральна процілеглыя працэсы, чаго ня ўтойвае і Праграма: "У краінах Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы руская мова практычна выключана з навучальных праграмаў вышэйшых і сярэдніх навучальных установаў. Рэзка скараціўся лік настаўнікаў і выкладчыкаў рускай мовы, спынілі сваю дзейнасьць многія цэнтры рускай мовы за рубяжом". Такое безрадаснае становішча для рускай мовы ў іншых краінах абавязвае да глыбокага вывучэньня прычын, што выклікалі яго, але ні ў якім выпадку не дае падстаў да прыняцьця нейкіх там адміністрацыйных захадаў з мэтай вярнуць ёй страчаныя пазіцыі. А ўвогуле становішча рускай мовы ў сьвеце нельга паправіць аніякімі захадамі да таго часу, пакуль Расія не створыць унутры сваёй краіны прыстойнага эканамічнага і палітычнага жыцьця. Вунь Кітай зрабіў "скачок" у сваім сацыяльна-эканамічным разьвіцьці, і адразу-ж вырасла жаданьне студэнтаў многіх краін сьвету вывучаць яго мову, нягледзячы на ўсе цяжкасьці авалодваньня ёю.

І ўсё-ж, якія-б страты ні панесла руская мова пасьля распаду СССР. яе пазіцыі і зараз больш-менш відавочныя ў сьвеце. А галоўнае, ёй не пагражае аніякая мова ўнутры краіны, чаго ня скажаш пра беларускую, якая на сваёй этнічнай тэрыторыі паводле аб'ёму сацыяльных функцыяў у дзесяткі разоў уступае рускай і таму зусім неканкурэнтназдольная з ёю і, значыцца, асуджана на верную сьмерць, калі не ажыцьцявіць дзейных захадаў па лініі дзяржаўных органаў па абароне роднага слова беларусаў. Нічым не апраўдана, што замест такіх захадаў па вырашэньні дадзенай лёсавызначальнай праблемы дзяржава наўмысна штурхае дэнацыяналізаванае, зрусыфікаванае насельніцтва на ўсялякага роду рэфэрэндумы, наперад ведаючы, што яно не стане на абарону свайго амаль забытага роднага слова і, гэта значыць, вызваліць і палітыкаў, і інтэлігенцыю ад усялякіх клопатаў па яго выратаваньні.

Нічога падобнага не назіраецца ў Расіі. Яе цьвярозага розуму, нацыянальна-самасьвядомым палітыкам, інтэлігенцыі робіць вялікі гонар, што яны, убачыўшы паслабленьне пазыцыяў рускай мовы, тут-жа распрацавалі вельмі сур'ёзны нарматыўны акт па падняцьці яе ролі. Лічу крайне актуальным для нашых дзяржаўных дзеячаў і вучоных, у першую чаргу філолагаў, неадкладна заняцца глыбокім вывучэньнем фэдэральнай мэтавай праграмы "Русский язык", бо ў ёй вельмі багата чаго такога, ад выкарыстаньня якога можна было-б ня толькі істотна пашырыць сацыяльныя функцыі беларускай мовы, але і цалкам вызваліць яе ад усялякага роду асыміляцыі, зрабіць сапраўднай гаспадыняй у сваёй роднай хаце. Вельмі зручна, што нашым палітыкам і вучоным па вопыт рэгуляваньня моўнымі працэсамі трэба ехаць не ў далёкія заморскія краіны, а ў суседнюю Расію. Толькі не марудзьце, каб не страціць апошнюю надзею на выратаваньне самага найдаражэйшага, што ёсьць у духоўным скарбе нашага народу, — беларускай мовы, у якой уся яго гісторыя і культура, а галоўнае — само будучае.

*Леанід ЛЫЧ,*
доктар гістарычных навук, прафэсар.

---

## Рыгор БАРАДУЛІН:
# «...Улада пацвельвае з творцаў: «Баршчу не зварыце, рэцэпт у нас...»

"ЗВЯЗДА"

***Рыгор Барадулін, ушанаваны званнем народнага паэта Беларусі, — літаратар па сённяшнім часе досыць прамалінейны і жорсткі. Здараецца, чытаеш яго вершы апошніх гадоў і нават апошніх месяцаў — і складваецца ўражанне, што аўтар паэтычных радкоў зусім не турбуецца пра тое, бачыць чытач у напісаным ім гуманістычнае прадвызначэнне літаратурнага тэксту альбо ўспрымае слова толькі як дзею, як уласнае грамадзянскае, палітычнае перакананне творцы. Паэт Рыгор Барадулін, здаецца, сумясціў у паэзіі сваёй зусім несумяшчальнае — выключна само мастацтва і чысцейшай вады палітыку. Ён, майстар, і сам гаворыць: «З самага пачатку стварэння я з БНФ...» Чаму зроблены такі, а не іншы, магчыма болей творчы выбар — магчыма, тлумачэнні аб тым і ў сённяшнім дыялогу з паэтам. Слова — Рыгору Барадуліну, яго поглядам і перакананням.***

**— Спадар Рыгор, вы — часты госць «Звязды». Мы рады сустрэцца з вамі. І зусім не таму, што дзякуючы Барадуліну, яго вострым выказванням, прамалінейнай, далёка не заўсёды кампраміснай пазіцыі збіраемся некага дражніць, цвяліць. Сустрэч з вамі патрабуе чытацкая пільнасць, чытацкая ўвага. Барадулін — імя папулярнае. А значыць менавіта вашыя меркаванні пра рэчаіснасць, ацэнкі яе цікавяць аўдыторыю «Звязды». І, пэўна ж, не толькі «Звязды». Але, каб прыйсці, кажучы жартам, — дакаціцца да такога жыцця, патрэбна сталая папулярнасць... Як вы яе дамагаецеся, як утрымліваеце? Няўжо адно толькі за кошт літаратурнай, паэтычнай творчасці?..**

— Папулярнасць, відаць, як ранішні туман. Раніцай яго дужа многа і густа. А к паўдню ён знікае. Папулярнасць — яна жаночага роду. Калі дужа за ёю гонішся, стараешся дапасці да яе, яна проста ад цябе ўцякае. Вы ведаеце анекдот пра далягляды камунізму?.. Лектар гаворыць: «Набліжаемся да светлых даляглядаў камунізму». Раптам дзядок-слухач пытаецца: «Скажыце мне, а што такое далягляды?» Лектар адчыняе патрэбную старонку ў энцыклапедыі: «Далягляды — лінія, дзе неба быццам бы зліваецца з зямлёй, па меры набліжэння яна няўхільна аддаляецца». Дзядок сваё рэзюме выносіць: «Цяпер мне ясна, што такое далягляды камунізму...» Вось так і папулярнасць. Я стараюся жыць так, як жывецца...

Пры ўсім дыскамфорце мне цяперашні час падабаецца. Можна думаць што хочаш. І пісаць што хочаш — таксама. Не заўсёды, праўда, тое, што пішаш, друкуецца.

**— Якая прычына таго?**

— У сілу ўступае і рынак... Цэнзура зараз ідзе на ўзроўні фінансавання. Самым жорсткім цэнзарам для беларускай літаратуры, беларускай культуры з'яўляюцца грошы, фінансы, капітал. Паколькі ў нас не было, няма ў Беларусі нацыянальнай буржуазіі, яна не паспела сфарміравацца, бальшавікі яе разбурылі, і няма мецэнатаў, зацікаўленых у беларускім нацыянальным адраджэнні.

Так што калі гаварыць пра папулярнасць, то яе сілкуюць многія крыніцы. Толькі вось хіба сапраўды прыродаачышчальную крыніцу пад сілу стварыць чалавеку наўмысна, штучна? Папулярнасць таксама праходзіць. Незаўважна, як маладосць..

**— Вы загаварылі пра цэнзара эканамічна-фізічнага... А ці ёсць сёння іншая цэнзура, на ваш погляд?**

— А зараз і іншая прысутнасць цэнзуры адчуваецца. Яна не яўная. Афіцыйнай жа цэнзуры ідэалагічнага кшталту няма. Але разам з тым яна і ёсць, плавае ў паветры. Пачынаеш адчуваць дыханне цэнзуры ў сябе на патыліцы. Гэта, не раўнуючы, як смерць, дыханне якой час ад часу адчуваеш.

**— А ці не здаецца вам, што цэнзуру многія мастакі і сёння фарміруюць унутры сябе, самі сябе абмяжоўваюць?..**

— Велізарнае дасягненне савецкай ідэалагічнай машыны — выхаванне ў чалавеку ўнутранага цэнзара. Васіль Быкаў заўсёды гаварыў, што не трэба цэнзуры, трэба, каб у аўтара выпрацаваўся ўнутраны рэдактар. Вось гэты ўнутраны рэдактар мацней за цэнзуру... Некалі расказвалі: пасля вайны сталыя пісьменнікі вучыліся на курсах паліт-асветы.

**—...Відаць, пра іх згадвае Танк у сваіх дзённіках, зазначаючы, што не застаюцца ў яго памяці гэтыя палітычныя навукі.**

— Дык вось, у Маўра спыталі: «Дзядзька Маўр, дапамаглі вам курсы?» — «Ой, дужа дапамаглі». — «А як?» — «Раней я ўсё пішу, пішу, пішу... А цяпер — напішу, пачытаю, падумаю, закрэслю...» Мо гэта і на палову прыдуманы анекдот. Але, упэўнены, і цяпер такая задача ставіцца нашымі ідэалагічнымі коламі.

**— Вяртаючыся да тэмы папулярнасці, якая неспадзеўкі перамяшалася ў нас з цэнзурай... А ўлада можа падтрымліваць, песціць папулярнасць патрэбнага ёй мастака?**

— Савецкім часам улада рабіла ўсё. Яна і падымала, і апускала чалавека ў небыццё. Праўда, быў і такі эфект яшчэ з біблейскіх часоў. Ганімы заўсёды з'яўляецца папулярным. Таму трэба было чыніць такое ганенне, каб не рабіць пакутніка. Бывалі ж выпадкі, што чым большыя прэс, уціск — тым большая папулярнасць. Яркі прыклад з Ганнай Ахматавай. Канешне ж, выдатная паэтэса пушкінскай школы. Але ў Ахматавай не было б такой папулярнасці (і за мяжою таксама), калі б не пастанова пра «Звезду» і «Ленинград»... І адразу пайшлі яе кнігі за мяжою.

**— Выходзіць, Жданаў разам са сваімі памагатымі па ідэалогіі пралічыўся?**

— Так, была дапушчана велізарная памылка. Перастараліся... сучасная наша ідэалогія адрозніваецца большым вопытам. Стараецца проста замоўчваць з'явы ў мастацтве, літаратуры. Яркі прыклад — як абыходзяцца з Быкавым. Калі груба гаварыць, Быкава хапаюць за пяткі з падваротні. Але

не адкрыта, не на ўвесь голас вядуць з ім барацьбу. І калі брэшуць на вялікага пісьменніка, то ў паўбрэху. Стараюцца не на вуліцы, а недзе ў завулку. Сучасная ідэалогія вынесла з мінуўшчыны ўрокі.

Праяўляецца старанне падняць прэстыж, стварыць імідж тым, хто падтрымаў, не пасаромеюся сказаць, па-халуйску падтрымаў самыя некаторыя бязглуздыя крокі ўлады. Стараюцца падтрымаць прэміямі, званнямі, частым згадваннем у сваёй добранадзейнай абойме. Але ўсё роўна рэакцыя атрымліваецца адваротнай. Грамадства ўсё ж такі свядомае, няхай і не ўсё.

**— Атрымліваецца па-вашаму, што кожнай уладзе патрэбны свае мастакі...**

— Задача ўлады — мець свайго мастака, прыдворнага паэта, пісьменніка, які б абслугоўваў яе.

**— І вы думаеце, што сучаснае грамадства заўжды здольнае заўважыць, разгледзець няшчырасць мастака, тое, калі творца будзе строга ісці па шляху выканання сацыяльнага, палітычнага заказу ўлады?**

— Самае няшчырае шчыраванне такіх людзей, якія стаяць на падхваце, у зацюканым, забітым грамадстве мала адчувальнае. Ідзе велізарнейшы абвал інфармацыі. Паднята «жалезная заслона». Людзі знаходзяцца ў стане галечы. І тут усё дзеецца па прынцыпу «свінні не да парасят, калі яе смаляць». І ўсе намаганні мастацкія і псеўдамастацкія бы ў ваце знікаюць. Нават не ў ваду трапляюць. Туды якая з'ява патрапіла б — кругі б пайшлі. А вата што, усмоктвае сабе ды і толькі. У ваце і цёпла, і глуха.

**— Крытыкуючы ўладу, мы не задумваемся пра тое, што без яе самага актыўнага ўдзелу, без яе ініцыятывы ў супрацоўніцтве з інтэлігенцыяй нельга, немагчыма паставіць заслон растучай бездухоўнасці рэчаіснасці. Праўда, складваецца ўражанне, што і ўлада часам забываецца, што без своеасаблівага мастка — інтэлігенцыі, творцаў — духоўнасць народа не выратуеш..**

— Канешне ж, у нармальным грамадстве, якое думае пра дзяржаўнасць, незалежнасць, калі ўлада турбуецца пра захаванне нацыянальнай душы, схема правільная і патрэбная: улада — інтэлігенцыя — народ. У наш час, пры нашым канкрэтным грамадстве складваецца зусім іншая сітуацыя, сцвярджаецца зусім іншы прынцып: ратуйся, хто як можа. І ўладзе цяперашняй няма патрэбы ў інтэлігенцыі. Самая магутная ўлада — тэлевізія, СМІ. Разам з дзяржаўнымі інстытутамі яны робяць, імкнуцца, на крайні выпадак, да гэтага, зрабіць «укладку мазгоў».

**— Што ж, рэчаіснасць, да таго ж і наша, беларуская, а тым болей расійская, пераконвае ў лагічнасці вашага вымярэння: улада — гэта тэлебачанне, якое замбіруе насельніцтва. А ці не здаецца вам, што, перамяшаўшы ўсё на свеце ў сучаснай сваёй грамадскай свядомасці, мы забыліся на тое, што ўлада — гэта народ, адлюстраванне яго памкненняў?**

— Я не дужа веру ў так званыя рэферэндумы. Асабліва не веру ў так званыя незалежныя інстытуты, у апытанні, бо некаторых кіраўнікоў прагназіравання я дужа добра ведаю як былых партыйна-камсамольскіх функцыянераў. Я веру ў тое, што па традыцыі, якая склалася вякамі, народ усё ж такі не давярае ўладзе. І вера ў добрага цара, вядомая справа, стваралася царскім атачэннем. Вазьміце фальклор, прыказкі, казкі... Дзе вы бачылі, каб быў выведзены вобраз святога цара, які б набліжаўся да Бога?

**—Дык, а можа, ідучы вашай логікай, занадта крытычнымі атрымліваюцца стрэлы ў бок улады? Мо ўвогуле і не павінна ўлада набліжацца да творцаў, не павінна ўлазіць у жыццё саюзаў творцаў, не павінна апекавацца інтэлігенцыяй?**

— Сучасная ўлада, безумоўна, стараецца не ўнікаць кіравання — прамога і ўскоснага. Але тут ізноў жа варта прыгадаць народны прынцып: воўк сабакі не баіцца, але звягі не любіць. У Баку мне некалі расказвалі анекдот. Азербайджанец быў на Украіне. Яму спадабаўся боршч. Узяў рэцэпт, пайшоў на цэнтральны бакінскі базар, купіў капусту, бараніну, усё, што трэба. Людзей шмат, сабака схапіў бараніну і ўцякае. Азербайджанец спакойна яму ўслед і гаворыць: «Бяжы, бяжы, усё роўна баршчу не зварыш, рэцэпт жа ў мяне». Па-мойму, улада так і пацвельваецца з інтэлігенцыі, творцаў: «Баршчу не зварыце, рэцэпт у нас». *Ва ўлады* — рычагі ўплыву на грамадства, тыя ж СМІ.

Некалі ж, здаецца, Кенэдзі гаварыў што, маўляў, калі ў мяне будзе тэлебачанне — у маіх руках будзе ўвесь свет.

**— Спадар Рыгор, а калі гаварыць пра вас асабіста, то раней вы былі з уладай, збоку ад яе ці як?**

— Вы разумееце, дзейнічала жорсткае ленінскае палажэнне — жыць у грамадстве і не залежаць ад яго немагчыма. Я стараўся быць трошкі збоку, наколькі гэта можна. Я не магу гаварыць, што быў дысідэнтам, быў беззаганным. Былі нейкія вершы і на патрэбу дня. Але ў асноўным... Таксама не магу сказаць, што быў падобны да тых, хто, запаўняючы анкету, адказваў на пытанне пра хістанні: «Хістаўся разам з генеральнай лініяй...» Я не хістаўся разам з генеральнай лініяй. Але ўсё ж такі часта бываў каля гэтай лініі.

**— За што болей сорамна вам асабіста ў тым ранейшым часе?**

— За час сорамна. І адпаведна — сорамна за тыя дзеянні, што былі сугучныя такому часу.

**— Паставіўшы ў нашым дыялогу ўладу і інтэлігенцыю адну насупраць другой, ці не перабольшылі мы? Нейкая кволая ўжо была наша інтэлігенцыя ў сваім унутраным ці вонкавым супраціўленні. Асабліва калі мець на ўвазе пісьменніцкую кагорту. Не ад'язджалі ж нават, не ўцякалі?**

— У фізічным плане калі гаварыць, то цяпер ёсць такое меркаванне, што ўлады адзін час хацелі справакаваць выезд Быкава за мяжу. Але Быкаў на гэта не паддаўся, а застаўся ваяваць тут. Хаця часта яго адпраўлялі за мяжу з тайнай надзеяй, што Васіль Уладзіміравіч не вернецца. Быкаў застаўся гараваць са сваім народам.

У мяне былі творчыя ўцёкі. Адыходзіў ад арыгінальнай творчасці, працаваў над перакладамі.

**— Спадар Рыгор, і ўсё ж, на мой погляд, улада і інтэлігенцыя не могуць не судакранацца...**

— Гэта вечная тэма.

**— Якімі павінны быць ідэальныя стасункі?**

— Ідэальныя?.. Ці інтэлігенцыя ў канфрантацыі, ці проста ўлада і інтэлігенцыя адно аднаго не заўважаюць.

**— Значыць, заўсёдны лёс інтэлігенцыі — быць у апазіцыі, нават пры дэмакратычным урадзе?**

— Так, у апазіцыі. Пры так званым дэмакратычным урадзе. Не забывайцеся, у нас усе словы дэвальваваныя. Дэмакратычным бывае, завецца такі, што не адсякае галовы.

Сёння калі не быць у апазіцыі да ўсяго таго рэакцыйнага, што адбываецца ў жыцці, то значыць маўкліва пагаджацца з ім.

**— Таму і вы займаецеся палітыкай?**

— Таму займаюся палітыкай, што не хачу і не магу маўчаць.

**Гутарыў Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Яна ўжо не прыедзе ў Беларусь

Тыдзень таму, 25 ліпеня, памерла Наталля Арсеннева. Амаль стагоддзе свяціла яе зорка, бачная адусюль: у любай Вільні, якая стала радзімай сэрца, у далёкім нялюдскім стэпе, куды ссылалі ў сталінскія часы, у задымленым ад ваенных пажараў Мінску, у нямецкіх лагерах для «перамешчаных асобаў», у заакіянскай Амерыцы, што прытуліла гасцей з Беларусі. Як на адзін лёс — то вандраванняў было аж зашмат. Ды такіх вандраванняў, калі рваліся жывыя, крэўныя сувязі з самым дарагім, калі ўсё даводзілася пачынаць амаль з пачатку...



Адзначэньне 70-х угодкаў Натальлі Арсеньневай у Нью-Ёрку. Д-р Вітаўт Тумаш вітае юбілярку.

У далёкія 20-я гады ў Першай Віленскай беларускай гімназіі настаўнікамі Наталлі Арсенневай былі Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч, слынныя дзеячы нацыянальнага Адраджэння. «*Не ставала блізу ўсяго,* — успамінала пазней Арсеннева, — *шмат хто з вучняў і з настаўнікаў галадаваў, ня было нястачы толькі ў вадным — у запале, у гарачых ахвярных сэрцах, у людзях, якія, дарма што голад і холад, аддана вялі сваю працу з аднэю думкай — зрабіць шчасьлівай сваю Бацькаўшчыну — Беларусь*». З закаханасці ў Максіма Грэцкага, у беларускае слова і нарадзілася тады Паэтка. Першая кніга Арсенневай «Пад сінім небам», што выйшла ў Вільні ў 1927 годзе, услед за паэзіяй Максіма Багдановіча была адкрыццём беларускага паэтычнага імпрэсіянізму, яна і сёння прываблівае адчуваннем свежасці і красы свету, першароднай беларускай прыроды, старажытных народных павер'яў.

У час Другой сусветнай вайны, у акупаваным Мінску паэтка стварае новую кнігу, дзе пераважаюць матывы роспачы, трывогі за чалавека, роздум аб месцы мастака ў чалавечай, нацыянальнай супольнасці. З пазіцыі хрысціянскай любові Арсеннева асуджае вайну як найвялікшае зло, аплаквае яе ахвяраў, усіх палеглых з Дняпра і Рэйна. Нашаму грамадству, выхаванаму на нянавісці і хлусні, нялёгка было зразумець гуманістычны сэнс адвечнага хрысціянскага шкадавання па ўсіх забітых, але Паэтка ўзвышае нас да гэтага разумення. У самы цяжкі час выпрабаванняў яна просіць заступніцтва перад Богам за свой народ, ствараючы слынную сёння «Малітву», «Магутны Божа! Ўладар Сусьветаў...».

Некаторыя патрыятычныя вершы Наталлі Арсенневай сталі папулярнымі песнямі, якія выхоўваюць беларускую моладзь на эміграцыі. Яшчэ зусім, здавалася б, нядаўна гэтыя песні нагадаў нам Данчык, перадаючы сваё захапленне асобай паэтэсы.

Спадарыня Наталля ўжо ніколі не прыедзе ў Беларусь. Але словамі яе малітвы, якую яна нам пакідае, мы можам прасіць: Магутны Божа! Пашлі спакой яе душы, аддай ёй спаўна за яе любоў да нас і беларускага слова — і Беларусі.

**Люба ТАРАСЮК**

**СВАБОДА**





# ПРЫСЯГА

*Натальля Арсеньнева*

Беларусь!
Наша маці-краіна!
Ты з нас моцных зрабіла людзей.
Не загінулі мы і ня згінем,
пакуль Ты нас наперад вядзеш!
Пастаім за Цябе, як асілкі,
нашы сэрцы палаюць агнём,
дружна, мужна
за лёс Твой расьцьвілы
супраць Чорнае моцы мы йдзём.
Не шкада нам жыцьця маладога,
не шкада нам гарачай крыві,
абы толькі праменнай дарогай
крочыў горда народ наш жывы!
Прысягаем
Табе мы сягоньня,
што пакуль хоць адзін з нас жыве, —
нашай слаўнай Крывіцкай Пагоні
мы ня зганьбім,
мы ўславім яе!



# Беласточчына як Прыднястроўе

## або Страсці вакол З'езду

«НІВА»

II З'езд беларусаў свету павіс у паветры напярэдадні назначанай даты нарадаў. З'езд павінен пачацца ў суботу, 26 ліпеня, але ў пятніцу аказалася, што Тэатр музычнай камедыі ў Мінску, якога залу зняло пад з'езд Згуртаванне беларусаў свету „Бацькаўшчына", не адпавядае нормам супрацьпажарнага забеспячэння. Вядома, ніхто ў такую прычыну адмаўлення залы не паверыў і ў свет пайшла інфармацыя аб спробе сарвання з'езду.

Пад вечар улада адумалася і раніцай у суботу з'езд пачаў працаваць у раней назначаным месцы. Тым не менш, „супрацьпажарная" мітусня настолькі ўзлавала ўдзельнікаў з'езду, што свістамі і воклічамі „ганьба" не дазволілі зачытаць пасланне прэзідэнта Лукашэнкі. Усё-такі прэзідэнцкая адміністрацыя не здалася і пачала закулісную працу над выбранымі ўдзельнікамі з'езду. Паволі пачала фармавацца плынь апраўдання прэзідэнта. Увайшлі ў гэтую плынь і прадстаўнікі БГКТ, якія ў сіле поўнага аўтобуса прыбылі на з'езд. Асаблівую славу прыдбала сабе сп. Ніна Цыванюк, якая выступіла ў суботу па Беларускім тэлебачанні з крытыкай паводзін удзельнікаў з'езду падчас зачытвання прэзідэнцкага паслання. Гэтая ж бойкая жанчына ў нядзелю дала адпор католікам, знаходзячы апанента ў асобе уніяцкага святара а. Яна Матусевіча.

Ад імя каго з вядомых людзей беларускай культуры выслухаў я дакоры ўбок беластачан і разгубленыя пытанні, у чым тут справа. Наогул, Беласточчыну пачалі раўняць з Прыднястроўем, якога прадстаўнікі вылучаліся з ліку ўдзельнікаў З'езду тугой па колішняй „вялікай радзіме". Я нават пачуў, як ад'езд беластоцкага „Аўтасана" хтосьці пракаментаваў: „Паехала Прыднястроўе". Каб толькі гэты каментатар быў фальшывым пракорам.

З суботняга вечара некаторыя ўдзельнікі пачалі разважаць: ісці ці не ісці на сустрэчу з прэзідэнтам Лукашэнкам. Запрашэнні з'явіліся ні адсюль ні адтуль. Як можна было пачуць, некаторыя дэлегаты з абшару колішняга СССР хадзілі раней на сустрэчу з палкоўнікам савецкага КГБ, сёння віцэ-прэм'ерам Уладзімірам Замяталіным. Хто пайшоў, гледачы БТ маглі пабачыць у панядзелак вечарам.

Іншая частка ўдзельнікаў, таксама па-за праграмай З'езду, далучылася да шэсця, арганізаванага апазіцыяй з нагоды скасаванага прэзідэнтам Дня Незалежнасці. Каля 5 тысяч дэманстрантаў прайшлі з плошчы Якуба Коласа пад Оперны тэатр. Шэсце адбывалася спакойна, хаця ўдзельнікі без дазволу ўлад выйшлі на вуліцу (у Мінску звычайна дазваляюць пратэставаць на тратуары). Большая частка шэсця адбылася ў парку. Некаторыя гаварылі: у кустах, а іншыя пыталіся рытарычна: колькі яшчэ так будзем хадзіць. Лібералы пусцілі на воды Свіслачы некалькі малых караблёў з бел-чырвона-белымі сцяжкамі, але падуў вецер і караблі вывернуліся.

Ля Опернага тэатра прамовілі прамоўцы, заспявалі спевакі, запушчаны быў паветраны шар з бел-чырвона-белым сцягам і спалены аграмадны павук на павуціні, які сімвалізаваў нямодную ўладу. Канцэрт рок-гуртоў не адбыўся, паколькі ад ранку „прапаў" электраток. Цікава было паглядзець за стракатым складам мітынгоўцаў. Былі тут звычайныя „нацыяналісты" з рознага роду бел-чырвона-белымі ўпрыгожаннямі: майкамі, шапкамі і парасонамі. Сярод іх красаваліся рокеры, металісты і г.п. у чорных майках з назвамі ўлюбёных гуртоў. Увагу прыцягваў а. Пётр з Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы. Аказваецца, што ўжо ў Беларусі ёсць і такая царква, ды не толькі ў Сёмкавым Гарадку (непадалёк Менска), адкуль прыехаў гэты праваслаўны святар. Пастар Ліпань ад рэфармаваных евангелікаў (кальвіністаў) прыехаў на веласіпедзе і пачаў дакараць прысутных у тым, што абагаўляюць нацыю і сапраўды ў нічым не лепшыя за тых, якія шпацыруюць па парку па-за нацыянальнымі прычынамі. Увагай мітынгоўцаў ён не карыстаўся.

Толькі як удзельнікі мітынгу пачалі разыходзіцца, вядомыя службы пачалі хапаць выбраных у машыны, нават падлеткаў. Адзін газік заехаў нават пад рэстаран „Кветка-папараць", у якім удзельнікі з'езду святкавалі заканчэнне нарадаў. Кажуць, міліцыя заехала з намерам хапануць аднаго з завадатараў шэсця, які банкетаваў сярод беларусаў свету.

II З'езд згаданых беларусаў адбыўся. Выбраны былі нанава прэзідэнт ЗБС „Бацькаўшчына" Радзім Гарэцкі, перавыбраны Вялікая і Малая рады. Старшынёй Рады застаецца Ганна Сурмач. Такім чынам улады „Бацькаўшчыны" могуць лічыць з'езд сваім поспехам, бо згуртаванне можа надалей працаваць згодна са сваім статутам. Але наўрад ці на спакойную працу дазволяць улады Рэспублікі Беларусь. Відаць, рацыю мелі амерыканскія беларусы, якія адмовіліся прымаць удзел у мерапрыемстве, праводжаным у такіх палітычных абставінах.

Алег ЛАТЫШОНАК



*Дэманстрацыя з нагоды Дня Незалежнасці — скасаванага прэзідэнтам свята.*

*Фота Міры ЛУКШЫ*

# II З'езд „Бацькаўшчыны" ў тэлебачанні РБ

28 ліпеня 75 удзельнікаў II З'езду беларусаў свету падалося на сустрэчу з прэзідэнтам Беларусі Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Прэзідэнцкае тэлебачанне перадало абшырную справаздачу з гэтай сустрэчы. Матэрыял са З'езду, адпаведна падрыхтаваны спецыялістамі па прапагандзе, дэманстраваўся толькі 2 мінуты. Замежных гасцей Лукашэнка прывітаў на беларускай мове, перапрасіў за тое, што „беларускія нацыяналісты" аб'явілі пра сваю прысутнасць падчас першага дня нарадаў, абяцаў, што праз чатыры гады, на наступнай сустрэчы ўжо будзе поўны парадак. Яшчэ раз расказаў, як „фашистские" сімвалы — бел-чырвона-белы сцяг і Пагоня — па волі „беларускага народа" былі адкінуты і як пацярпела маральнае паражэнне „г.зв. дэмакратычная апазіцыя". Прэзідэнт праінфармаваў дарагіх гасцей пра сваю адданасць для беларускай мовы і культуры, паспяховае развіццё беларускай эканомікі і галоўныя прынцыпы інтэграцыі з Расіяй. „Нацыяналісты за долары, — сказаў Лукашэнка, — выступаюць супраць свайго прэзідэнта і імкнуцца зацягнуць Беларусь у НАТО". Прысутныя словы прэзідэнта РБ прывіталі бурлівымі воплескамі.

Пасля Лукашэнкі голас узяў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Ян Сычэўскі, які не менш эмацыянальна чым прэзідэнт Беларусі выказаў сваё абурэнне паводзінамі „нацыяналістаў".

Можна толькі дадумвацца, як адчувала сябе беларуская інтэлігенцыя, якая ўжо тры гады змагаецца з таталітарным рэжымам Лукашэнкі. Прэзідэнцкае тэлебачанне ў знакаміты спосаб паказала, што беларусы замежжа таксама падтрымліваюць „усенароднаабранага". Пасля Я. Сычэўскага выступілі нейкія „чарнасоценцы" з Прыднястроўя, якія за інтарэсы рускай імперыі змагаліся з малдаванамі, пасля госці з Эстоніі, Расіі, Аўстраліі. Паводле беларускага тэлебачання, удзельнікі II З'езду беларусаў свету поўнасцю падтрымалі палітыку Лукашэнкі. (ям)

# ЧУЖОЙ СРЕДИ СВОИХ

## АМЕРИКАНЕЦ ВЫЗВАЛ ЛУКАШЕНКО НА ПОЕДИНОК

Марьяна ДУНЦЕВА «ИМЯ»

**Ученый-эколог Джозеф Пецевич - единственный представитель американской диаспоры, который, несмотря на объявленный соотечественниками дальнего зарубежья бойкот, участвовал во Втором съезде белорусов мира. Он оказался в числе делегатов, удостоенных встречи с президентом. Выступление Джозефа прозвучало полнейшим диссонансом речам, которые принято говорить в присутствии Александра Григорьевича. Даже на изящно обработанный переводчиком вариант президент Беларуси отреагировал довольно нервно.**

***— Чем же вы так напугали президента?***

— Я вступил с ним в диалог по проблемам белорусской культуры. Все мои родственники родом из долины Немана - колыбели Беларуси. Потом они обосновались в Массачусетсе. Этот штат считается колыбелью американской свободы. Я могу только порадоваться такому удачному стечению обстоятельств: белорусские корни и жизнь в свободном обществе. Я изучал Беларусь и пришел к выводу, что у нее богатое наследство. Беларусь должна быть свободной и независимой. Любое наступление на белорусскую культуру, белорусский язык, самих белорусов я считаю личным оскорблением, как и то, что белорусы официально живут под любимым флагом людей, которые хотят уничтожить современное белорусское государство. Высказав все это, я вызвал президента на поединок на теннисном корте.

***— Александр Григорьевич согласился?***

— Да, но сказал, что я проиграю. А затем добавил, что завтра у него по распорядку хоккей.

***— А вы умеете играть в хоккей?***

— Да. Но кто же привозит коньки и клюшки в Беларусь в июле?

***— Как отреагировали на ваше выступление присутствовавшие на встрече белорусы?***

— Я слишком нервничал, чтобы это заметить. Несколько раз кто-то смеялся. Я же стоял прямо перед лукашенковской тройкой: Шейман, Титенков, Заметалин. Они смотрели на меня. В последний раз я был в таком смятении, когда оказался в юго-западной американской пустыне.

***— Журналисты окрестили всемирную встречу белорусов съездом разочарований. С таким же впечатлением уезжаете и вы?***

— Конгрессу не хватало организованности, но я больше расстроился бы, если бы не было вообще никакой реакции. Я чувствую, что у белорусского международного сотрудничества большое будущее. Не хватает лишь согласованности в действиях.

***— Могла ли американская публика таким же бурным негодованием отреагировать на послание собственного президента, как это сделали во время съезда белорусы?***

— Довольно часто мы реагируем негативно на действия нашего президента. Мы не считаем правительство центром жизни. У граждан США есть способы противодействия властям. В различные периоды нашей истории народ пытался отодвинуть власть предержащих на задний план. Это напоминало перетягивание каната. Простым гражданам неприятно вмешательство государства в различные сферы их жизни. Последнее слово никогда не будет ни за Клинтоном, ни за каким-либо иным американским политиком. А сила народа в том, чтобы создать условия для реализации потенциала каждого члена общества.



**Американский белорус Джозеф Пецевич вызвал Александра Лукашенко на поединок**

***— Вы хотели бы сейчас жить здесь?***

— Не в условиях последних нескольких десятилетий. Тяжело наблюдать, как белорусы возвращаются в прошлое. Я никогда не был амбициозным человеком, но тут нет никакой возможности реализовать свой потенциал.

